**Жаўняровіч Пётр Пятровіч**

# Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча:

*моўны факт у вызначэнні жанру*

10.01.10 - журналістыка.

Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічныж кавук

Мінск, 2006

Работа выканана ў Беларускім дзяржаўным універсітэце

Навуковы кіраўнік - доктар філалагічвых навук, прафесар Іўчанкаў Віктар Іванавіч (Беларускі дзяржаўны універсітэт, кафедра стылістыкі і літаратурнага рэдагавання)

Афіцыйныя апаненты — доктар філалагічных навук, прафесар Ухванава Ірына Фролаўна (Беларуси дзяржаўны універсітэт, кафедра англійскай мовы і моўнай камунікацыі) кандыдат філадагічных навук, дацэнт Падаляк Таццяна Уладзіміраўна (газета "Звязда", член рэдакцыйнай калегіі)

Апаніруючая арганізацыя - Дзяржаўная навуковая ўстанова "Інстытут літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі"

Абарона адбудзецца 7 снежня 2006 г. у 14 гадзін на пасяджэнні савета па абароне дысертацый Д 02.01.08 у Беларускім дзяржаўным універсітэце па адрасе: 220030, г. Мінск, вул. Ленінградская, д. 8, аўд. 407.

З дысертацыяй можна азнаёміцца ў Фундаментальнай бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Аўтарэферат разасланы 2 лістапада 2006 г.

Вучоны сакратар савета па абароне дысертацый кандыдат філалагічныпх навук В.П.Вараб'ёў

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА РАБОТЫ

*Сувязь работы з буйнымі навуковымі праграмамі (праектамі), тэмамі*

Работа, выканана на кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў рамках навукова-даследчай тэмы факультэта журналістыкі "Журналісцкі тэкст у лінгвістычнай парадыгме" (2005-2007 гг., пратакол Вучонага Савета БДУ № 5 ад 26 чэрвеня 2005 г., рэг. № 20051628), а таксама ў адпаведнасді з дзяржаўнай праграмай фундаментальных даследаванняў НАН Беларусі "Мова і стыль сродкаў масавай інфармацыі на мяжы стагоддзяў" (2001-2005 гг., загад БДУ ад 27 лютага 2001 г., рэг. № 20012760). Тэма дысертацыі адпавядае прыярытэтным напрамкам развіцця журналістыкі як галіны навуковага пазнання: выяўленне асаблівасцей функцыянавання моўнага факта ў канкрэтным жанры садзейнічае ўдасканаленню метадалогіі праектавання, канструявання і прэзентацыі публіцыстычнага тэксту, якая ў такім выпадку актыўна ўзаемадзейнічае з лінгвістыкай і стылістыкай тэксту, дыскурсным аналізам, што дае магчымасць даследчыкам разглядаць тэкст як складаную камунікатыўную з'яву, а аўтарам насычаць СМІ высакаякаснымі матэрыяламі.

*Мэта і задачы даследавання*

Мэта даследавання - ахарактарызаваць парадыгматычную заканамернасць і сінтагматычную неабходнасць выбару аўтарам канкрэтнага моўнага факта, паказаць яго жанраўтваральную ролю. Для дасягнення пастаўленай мэты вырашаліся агульныя і прыватныя задачы:

- Вызначыць частотнасць функцыянавання тыповых безацэначных лексем у публіцыстыцы і ў мастацкай прозе У.Караткевіча;
- супаставіць лексічныя сістэмы публіцыстыкі і мастацкай прозы У.Караткевіча з лексікай, зафіксаванай у частотных слоўніках;
- выявіць і параўнаць частотнасць ацэначных лексем у публіцыстыцы і мастацкай прозе У.Караткевіча;
- ахарактарызаваць асаблівасці эсэ ў публіцыстыцы У.Караткевіча і невыпадковасць выбару аўтарам гэтага жанру публіцыстыкі;
- выпрацаваць класіфікацыйную мадэль аднясення канкрэтнага твора да жанру эсэ і да яго разнавіднасці;

- вылучыць найбольш характэрныя для эсэістычнага дыскурсу У.Караткевіча моўныя факты і адзначыць іх уздзеянне на выяўленне жанру;

- правесці дыскурсны аналіз публіцыстычнага твора У.Караткевіча і паказаць матывацыю выбару канкрэтных моўных фактаў у якасці прэзентантаў аўтарскіх інтэнцый;

- апісаць асаблівасці семантычнай кагезіі публіцыстычнага тэксту У.Караткевіча, створанай пры дапамозе імпліцыту трапеічнай адзінкі як канцэпта тэксту, і матываванасць канцэптам канкрэтнай жанравай разнавіднасці эсэ;

- даследаваць характэрныя прыметы, асаблівасці функцыянавання і асацыятыўныя сувязі канцэпта зямля ў публіцыстыцы У.Караткевіча.

Аб'ектам дысертацыйнага даследавання з'яўляюцца моўныя факты з 75 (з іх 9 - на рускай мове) публіцыстычных твораў пісьменніка - нарысаў, эсэ, артыкулаў, выступленняў, інтэрв'ю. Для даследавання выкарыстаны 48 тэкстаў, апублікаваных у зборы твораў У.Караткевіча (1987-1991 гг.), у дадатковым томе "Творы" (1996 г.), у томе "Выбраныя творы" (2005 г.), таму што складальнікі названых выданняў аднавілі некаторыя беспадстаўна зробленыя пры публікацыях рэдактарскія праўкі; астатнія 27 тэкстаў узяты з першапублікацый у асобных кнігах, літаратурных зборніках, часопісах і газетах.

*Палажэнні, якія выносяцца на абарону*

- лексічныя сістэмы публіцыстыкі і мастацкай прозы У.Караткевіча адрозніваюцца частотнасцю базавых лексем, якая ў асноўным супадае з паказчыкамі частотных слоўнікаў беларускай і рускай моў;

- у публіцыстыцы У .Караткевіча частотнасць ацэначных лексем значна перавышае іх частотнасць у мастацкай прозе;

- У.Караткевіч падчас тэкстастварэння максімальна выкарыстоўвае эсэістычны метад адлюстравання рэчаіснасці, што набліжае большасць публіцыстычных твораў да жанру эсэ;

- жанравая разнавіднасць эсэ ў публіцыстыцы У.Караткевіча вызначаецца функцыянаваннем у канкрэтным творы моўных фактаў і структурных частак, характерных для іншых публіцыстычных жанраў;

- эсэістычны дыскурс У.Караткевіча характарызуецца максімальным выкарыстаннем дэйктычных сродкаў маркіроўкі суб'екта (адрасанта) і аб'екта (адрасата) дыскурсу, уключэннем паказчыкаў

функцыі ілакутыўнага акта і разнастайных рытарычных фігур, якія становяцца дзейсным сродкам дыялагізацыі публіцыстычнага маўлення і дазваляюць удакладніць жанравую прыналежнасць канкрэтнага твора;

- дыскурсны аналіз публіцыстычнага тэксту дазваляе ахарактарызаваць парадыгматычную заканамернасць і сінтагматычную неабходнасць выбару таго або іншага моўнага факта як прэзентанта аўтарскіх інгэнцый;

- трапеічная адзінка і яе верагоднаснае імпліцытнае значэнне з'яўляюцца адным з асноўных складнікаў кагезіі публіцыстычнага тэксту У.Караткевіча; імпліцыт тропа стаповіцца канцэптам тэксту, семантычна напаўняецца на працягу сігніфікатыўнага разгортвання і служыць адным з паказчыкаў вызначэння жанру; - функцыянаванне канцэпта *зямля* ў публіцыстыцы У.Караткевіча дазваляе ахарактарызаваць кагаітыўныя структуры і выявіць асаблівасці моўнай карціны свету пісьменніка, суаднесці яе з нацыянальнай карцінай свету і знайсці ў іх агульнае і адметнае; канцэпт з'яўляецца своеасаблівым счэпам разнастайных частак эсэ.

*Асабісты ўклад суіскальніка*

Дысертацыйнае даследаванне выканана аўтарам самастойна, яму належаць усе змешчаныя ў ім вывады і абагульненні. У выніку навукова-тэарэтычнага аналізу аўтарам на належным узроўні вызначана ўздзеянне моўнага факта на правядзенне жанравай дыферэнцыяцыі публіцыстычных тэкстаў У.Караткевіча. Абагульнены і асэнсаваны маўленчыя працэсы, характэрныя для эсэістычнага дыскурсу У.Караткевіча. На падставе трох публіцыстычных тэкстаў выяўлены іх канцэпты, сканструяваныя аўтарам пры дапамозе трапеічнай адзінкі, імпліцытнае значэнне якой насьиаецца на працягу сігніфікатыўнага разгортвашш. Праведзена кагштыўнае даследаванне канцэпта зямля з выкарыстанием некаторых моўных фактаў мастацкай прозы і паэзіі У.Караткевіча, пры гэтым зроблена параўнанне з адпаведпым канцэптам, зафіксаваным "Словарем русской культуры" Ю.Сцяпанава. Выдзелены групы эпітэтаў, якія пашыраюць асацыятыўныя сувязі ядра канцэпта, вызначаны яго спалучальнасныя магчымасці, даследавана сшашмічная парадыгма ключавога слова.

*Апрабацыя вынікаў дысертацыі*

Выкладзепыя ў дысертацыі палажэнні, тэарэтычныя вывады і практычныя рэкамендацыі былі ўключаны ў абмеркаванне на рэспубліканскіх і міжнародных навукова-практычных канферэнцыях, разглядаліся на секцыях рэспубліканскіх і міжнародных лінгвістычных чытанняў: "Слова ў кантэксце часу" (Мінск, 10 сакавіка 2004 г.); "Журналістыка-2004" (Мінск, 2-3 снежня 2004 г.); "Национально-культурный компонент в тексте и языке" (Мінск, 7-9 красавіка 2005 г.); "Беларуская журналістыка 2005" (21 красавіка 2005 г.); "Текст в лингвистической теории и в методике преподавания филологических дисциплин" (Мазыр, 12-13 мая 2005 г.); "Е.Ф.Карский и современное языкознание" (Гродна, 16-17 мая 2005 г.); "Пісьменнік - мова - стыль" (Мінск, 29-30 верасня 2005 г.); "Творчасць Уладзіміра Караткевіча ў еўрапейскім культурным кангэкеце" (Орша, 25-26 лістапада 2005 г.); "Журналістыка-2005: на скрыжаванні часу і прасторы'" (Мінск, 1-2 снежня 2005 г.).

*Апублікаванасць вынікаў дысертацыі*

Матэрыялы дысертацыі выкладзены ў 7 публікацыях аўтара аб'ёмам 4,34 аўт. л. у навукова-метадычных часопісах, у 7 публікацыях аб'ёмам 1,1 аўт. л. у зборніках дакладаў і тэзісаў навукова-практычных канферэнцый, у 2 публікацыях у замежным часопісе і ў кнізе серыі "Жьщцё знакамітых людзей Беларусі" аб'ёмам 0,58 аўт. л.

*Структура і аб'ём дысертацыі*

Дысертацыя складаецца з уводзін, пераліку ўмоўных абазначэнняў, агульнай характарыстыкі работы, трох глаў, заключэння, бібліяірафічнага спіса, дадаткаў. Агульны аб'ём даследавання 100 старонак; 3 табліцы і 2 малюнкі займаюць 3 старонкі; 6 дадаткаў змешчаны на 18 старонках; выкарыстаны 163 бібліяграфічныя крыніцы.

## АСНОЎНЫ ЗМЕСТ РАБОТЫ

Ва **Уводзінах** даецца агульны агляд сучаснага стану вывучэння творчасці Уладзіміра Караткевіча, у прыватнасці яго публіцыстыкі, абгрунтоўваецца выбар тэмы, вызначаецца шлях асэнсавання публіцыстыкі, заснаваны на спалучэнні методыкі даследавання ў асобных. звёнах ланцужка "*журналістыка - літаратура - мова*". Асэнсаванне публіцыстыкі У.Караткевіча не атрымала пэўнай увагі вучоных і зводзілася да фрагментарнага разгляду асобных твораў у некаторых літаратуразнаўчых працах А.Вераб'я, В.Шынкарэнкі і інш.

У першай главе дысертацыі "**Публіцыстыка ў літаратурнай спадчыне Уладзіміра Караткевіча**" разглядаюцца асаблівасці публіцыстыкі пісьменніка, вызначаецца яе жанравы сінтэтызм і прапануецца класіфікацыйная мадэль аднясення твора да адной з жанравых разнавіднасцей эсэ.

У раздзеле "**Метадалогія вызначэння публіцыстыкі і яе жанраў**" канстатуецца наяўнасць шматлікіх пунктаў гледжання ў трактоўцы паняцця "публіцыстыка" ад характарыстыкі яе як "роду літаратуры" (М.Чарапахаў), “разнавіднасці літаратуры" (Р.Салганік), "спецыфічнага віду літаратурнай творчасці" (У.Здаравега) да "вышэйшага віду грамадска-палітычнай літаратуры" (Б.Стральцоў). Разнастайная дэфініцыя не змяняе галоўнага ў змястоўным напаўненні публіцыстычнага твора: стварэнне публіцыстычнага вобраза і даследаванне выбранага адрэзка рэчаіснасці. IIубліцыстыка трывала заняла сваё месца ў якасці надзейнага інструмента журналістыкі як практыкі прафесійнай дзейнасці.

Кожны даследаваны публіцыстычпы твор У.Караткевіча ў гіперагіпанімічнай таксаноміі вызначаецца як прыватнае праяўленне ў ланцужку літаратура → публіцыстыка → катэгорыя публіцыстыкі → жанр публіцыстыкі. Аднясенне канкрэтнага твора да публіцыстыкі дазваляе праводзіць яго вывучэнне ў напрамку ад публіцыстычнага стылю да тэксту і мовы.

У раздаеле "**Лексічныя сістэмы публіцыстыкі і мастацкай прозы**" праведзена параўнанне частотнасці безацэначных і ацэначных лексем у публіцыстыцы і мастацкай прозе У.Караткевіча.

Патрэба ў правядзенні квантытатыўнага аналізу тлумачыцца разнастайнасцю даследчыцкай інтэрпрэтацыі жанру асобных публіцыстычных твораў, якія некаторымі навукоўцамі далучагоцца да мастацкай прозы пісьменніка. Менавіта ў гэтым выпадку ўзнікае неабходнасць далучэння да журналісцкага, літаратуразнаўчага даследавання лубліцыстыкі ўласна лінгвістычнага і ўвядзення паняцця

"моўны факт". Моўны факт - сістэмнае праяўленне моўнай з'явы ў тэксце (корпусе тэкстаў), якое дазваляе рабіць высновы пра невыпадковасць яе функцыянавання; гэта, у прыватнасці, можа быць лексема, частотнасць, ацэначнасць, асоба займенніка, троп, рытарычная фігура, сінанімічная або антанімічная парадыгма, канцэпт і інш.

Частотнасць даследаваных безацэначных лексем у слоўніках беларускай і рускай моў практычна аднолькавая, што канстатуе канвергентнасць працэсаў функцыянавання лексем як у беларускай, так і ў рускай публіцыстыцы і мастацкай прозе. Параўнанне безацэначных лексем пацвярджае: тэксты публіцыстыкі і мастацкай прозы У.Караткевіча маюць, з аднаго боку, блізкую лексічную сістэму, з другога боку, частотнасць базавых лексем істотна розніцца. Лексемы год і першы маюць большую частотнасць у публіцыстыцы, чым у мастацкай прозе (у 3,15 і 1,87 раза); лексемы *сказаць, вельмі, мой*, наадварот, - большую частотнасць у мастацкай прозе, чым у публіцыстыцы (у 3,58, 1,49 1,03 раза). Названыя суадносіны частотнасці зафіксаваны для лексем *год, першы, сказаць, вельмі, мой* і ў частотных слоўніках беларускай і рускай моў. Атрыманыя вынікі сведчаць аб размежаванні лексічных сістэм публіцыстыкі і мастацкай прозы У.Караткевіча і ўскосна сігналізуюць пра арганічнае ўключэнне даследаваных лексем у структуру асобных публіцыстычных тэкстаў. Акрамя таго, частотнасць лексемы *мой* з імпліцытным паказчыкам "*я аўтара*" ў публіцыстыцы У.Караткевіча перавышае паказчыкі як беларускіх, так і рускіх слоўнікаў у 3-5 разоў і пацвярджае далучэнне большасці публіцыстычных тэкстаў У.Караткевіча да жанру эсэ.

У сувязі з тым, што для публіцыстыкі характэрна актыўнае фукцыянаванне ацэначных моўных сродкаў, падлічана і параўнана частотнасць ацэначных лексем у публіцыстыцы і мастацкай прозе У.Караткевіча. Даследавана функцыянаванне дзвюх лексем: велічмы, якая ўтрымлівае канататыўную ацэначнугу сему па-за кантэкстам, і мора ў метафарычным значэнні 'вялікая кожкасць, мноства каго-, чагонебудзь'. Вызначана, што частотнасць ацэначньж лексем велічны і мора у публіцыстыцы У.Караткевіча істотна перавышае частотнасць названых лексем у яго мастацкай прозе (у 7,8 і 2,4 раза адпаведна). Гэтым не толысі размяжоўвшоцца лексічныя сістэмы розных частак літаратурнай спадчьшы пісьменніка, але і пацвярджаецца шырокае выкарыстанне ў публщыстъщы ацэначнай лексікі, якая з'яўляецца паказчьпсам аўтарскіх адносін і сродкам уздзеяння на адрасата.

Раздзел "Жанравы сінтэтызм публіцыстыкі Уладзіміра Караткевіча" прысвечаны разгляду публіцыстычных твораў пісьменніка з пункту гледжання іх жанравай дыферэнцыяцыі. Жанравы сінтэтызм,

характэрны для ўсёй творчасці У.Караткевіча, у публіцыстыцы пісьменніка праяўляецца найбольш выразна. Гэта дазваляе весці гаворку пра арганічнае сумяшчэнне ў адным творы розных элементаў публіцыстычнага, навуковага і мастацкага светабачання пісьменніка.

Прыдатнай катагорыяй для характарыстыкі жанру канкрэтнага публіцыстычнага твора з'яўляецца моўная асоба пісьменніка, што дае магчымасць у час даследаваиня выкарыстоўваць як літаратуразнаўчы, так і мовазнаўчы падыход. Жанр эсэ найбольш блізкі У.Караткевічу, што канстатуецца аўтарскім вызначэннем жанру некаторых публіцыстычных твораў, а таксама "ўгадваннем" гэтага жанру праз аналіз структуры твора і выяўленне ў ім аўтарскага я, якое выразна гучыць у кожным тэксце, па-рознаму ўключаецца ў кампазіцыю.

Звыждысцыплінарны (паводле М.Эпштэйна) характар жанру эсэ, у якім інтэгруюцца асобныя складнікі іншых жанраў, дазваляе правесці яго дыферэнцыяцыю і выпрацаваць класіфікацыйную мадэль, заснаваную на выяўленні пераважных элементаў іншых публіцыстычных жанраў: нарыса, рэцэнзіі, замалёўкі, артыкула, фельетона. Краязнаўчыя нарысы, у якіх пісьменнік расказвае пра гісторыю і сучаснасць Беларусі і яе рэгіёнаў, пра звычаі і побыт насельніцтва, далучаюцца да жанравай разнавіднасці эсэ-нарысаў: партрэтныя нарысы з паглыбленым апісаннем лёсу асобы, яе знітаванасці з лёсам народа і значэння ў гісторыі, - да эсэ-партрэтаў; рэцэнзіі на кнігі Р.Барадуліна, Я.Сіпакова, В.Зуёнца, А.Наўроцкага, У.Лучука, на пераклады твораў Гётэ, Байрана і інш. - да эсэ-рэцэнзій; прадмовы да фотаальбомаў - да эсэ-замалёвак і г. д.

У працы на падставе прапанаванай класіфікацыйнай мадэлі вылучаюцца наступныя жанравыя разнавіднасці эсэ ў публіцыстыцы У.Караткевіча:

*эсэ-нарыс* ("Зямля над белымі крыламі", "Казкі Янтарнай краіны", "Званы ў прадоннях азёр", "Дрэва вечнасці", "Абраная", "Дыяментавы горад", "Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён" "Тысячу стагоддзяў табе" і інш.);

*эсэ-партрэт* ("Леталісец", "Подзвіг Францыска Скарыны", "Песня з паўночных Афін", "Зліццё з душой народнай", "Saxifraga", "І будуць людзі на зямлі", "Мой друг і мая зямля", "Цёплы жнівеньскі поўдзень" і інш.);

*эсэ-рэцэнзія* ("З любоўю да чалавека", "І наш "Фаўст"", "Шчыравала ў бары пчала", "Справяддівасць", "Крэсіва. Іскры. Агонь" і інш.);

*эсэ-замалёўка* ("Памяць зямлі беларускай", "Белавежская пушча", "Калі на зямлі ёсць казачныя краіны...", "Экзамен в Падуе"):

*эсэ-артыкул* ("Абдуванчык на кромцы вады", "Твой зорны час", "Родная мова", "Коласаўцы" і інш.);

*эсэ-фельетон* ("Ці дажывем да ста год, або пасмяротнае рыданне"). Аднак узаемнае размяшчэнне элементаў у кожным эсэ адной жанравай разнавіднасці ўсё ж нестабільнае, рухомае, цвёрда не замацаванае і залежыць ад руху аўтарскай думкі пры стварэнні канкрэтнага твора.

У другой главе дысертацыі **"Эсэістычны дыскурс Уладзіміра Караткевіча"** адзначаецца, што сукупнасцю разнастайных моўных фактаў, зафіксаваных у публіцыстычных тэкстах пісьменніка, вызначаецца яго мастакоўская манера і жанравая прыналежнасць публіцыстычнага твора, прэзентуюцца камунікатыўныя намеры аўтара і кагнітыўная сутнасць канкрэтнага тэксту як сацыялінгвістычнай з'явы. Выкарыстаныя даследаванні ў галіне дыскурс-аналізу, праведзеныя Т. ван Дэйкам, В.Кінчам, Дж.Серлем, Ж.Жэнэт, Ю.Сцяпанавым, Б.Місонжнікавым, В.Іўчанкавым, дазволілі выявіць выразна акрэсленыя аўтарскія перакананні, якія ўтрымліваюцца ў эсэістычным дыскурсе У.Караткевіча: зямля і радзіма неаддзельныя ад паняццяў чалавек і грамадзянін, сучаснасць і гісторыя суіснуюць у кожным факце рэчаіснасці, прырода і чалавек ёсць адно цэлае, галоўнае ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі - гуманізм.

У раздзеле **"Дэйктычныя сродкі маркіроўкі суб'екта-адрасанта і аб'екта-адрасата дыскурсу"** разглядаецца функцыянаванне займеннікаў *я, мы, мой, наш* як паказчыкаў суб'екта дыскурсу і займеннікаў *ты, вы, твой, ваш* як паказчыкаў аб'екта дыскурсу, пры дапамозе якіх уяўнае маналагічнае маўленне публіцыстыкі У.Караткевіча ператвараецца ў дыялагічнае. Пры гэтым філасофскія суб'ект-аб'ектныя адносіны ўбудоўваюцца ў іншыя камунікатыўныя адносіны, становяцца суб'ект-суб'ектнымі. У працэсе камунікацыі аб'ект Караткевічавай публіцыстыкі актыўны, фактычна выкове ролю суб'екта$^2$ (пры наяўнасці суб'екта$^1$ - аўтара), таму сінтагма "аб'ект дыскурсу" прымаецца як умоўная, якая характарызуе менавіта адрасата.

Існаванне ў творы эксплiцытнага ядра з дэйктычнымі сродкамі маркіроўкі суб'екта маўлення з'яўляецца абавязковай умовай функцыянавання эсэістычнага дыскурсу. Семантычна займеннік заўсёды супадае з асобай У.Караткевіча, бо ў публіцыстыцы паміж аўтарам і тэкстам адсутнічаюць прамежкавыя звёны, што пацвярджаецца выкарыстаннем у творах фактаў біяграфіі і ўласнага прозвішча, спасылкамі на творчыя кантакты і дасведчанасць. З мэтай пераканаць уяўнага адрасата і абгрунтаваць слушнасць аўтарскага бачання з'явы пісьменнік праз займеннік *мой* актыўна рэпрэзентуе звесткі,

атрыманыя ад родных, блізкіх і знаёмых людзей, усталёўваючы такім чынам меншую адлегласць паміж агенсам і рэцыпіентам. Займеннік *мой* у эсэістычным дыскурсе У.Караткевіча атрымлівае прырашчэнні сэнсу, дадатковыя канатацыі з пазітыўнай ацэнкай. Выяўленае ў першай главе дысертацыі перавышэнне частотнасці займенніка *мой* у чарговы раз сведчынь аб далучэнні публіцыстыкі У.Караткевіча да жанру эсэ.

Функцыянаванне займенніка *мы* звязана з падключэннем да суб'екта дыскурсу *я* іншых асоб. Гэта, у прыватнасці, можа быць той, хто з'яўляецца семантычным суб'ектам у творы або выконвае разам з аўтарам пэўныя сумесныя дзеянні. У эсэістычным дыскурсе У.Караткевіча найбольш пашыраны інклюзіўны суб'екг *мы*, які ўключае ў сябе аўтара ў складзе групы асоб (сярод якіх можа прысутнічаць і аб'ект дыскурсу) і такім чынам паказвае прыналежнасць да іх. У адных выпадках аўтар хоча засяродзідь увагу на неаддзельнасці свайго *я* ад іншых, на важнасці для сябе менавіта гэтай неаддзельнасці, у другіх выкарыстоўвае прыдаткі, канкрэтызуючы тым самым семантычнае напаўненне займенніка. Пры выкарыстанні некаторых займеннікаў *мы* аўтарскае *я* сінкрэтызуецца і з займеннікамі аб'екта дыскурсу, і з асобамі - жыхарамі канкрэтнай мясцовасці, краіны і, урэшце, усяго чалавецтва. Гэты суб'ект дыскурсу, безумоўна, больш за ўсё характарызуе У.Караткевіча як творцу, які можа ўзняцца да самых высокіх вяршынь абагульнення, выказаць вечныя, агулначалавечыя каштоўнасці. Выразы з такім займеннікам нагадваюць кампрэсію думак, афарыстычнасць якіх несумненная.

Займеннікі *я* і *мы* характарызуюць аўтара як чалавека прыватнага і чалавека сацыяльнага адпаведна, але на кагнітыўным узроўні "прыватны чалавек У.Караткевіч" канвенцыяльна больш актыўны за "свайго чытача", што дазваляе аўтару больш дзейсна выконваць пастаўленыя пры стварэнні тэкстаў мэты.

Суадносіны займеннікаў *я* і *мы* ўдакладняюць далучэнне канкрэтнага твора да адной з жанравых разнавіднасцей эсэ. У эсэ-нарысах у асноўным пераважае суб'ект *я*, а суб'ект *мы* мае два віды: 1) аўтар і адна або некалькі асоб, якія выконваюць з ім пэўныя сумесныя дзеянні; 2) інклюзіўны суб'ект ("Званы ў прадоннях азёр", "Казкі Янтарнай краіны", "Дыяментавы горад", "Абраная"...). У эсэ-партрэтах, калі аб'ектам даследавання ў творы з'яўляецца. Гістарычная асоба, суб'ект *я* практычна не сустракаецца, а *мы* выступае толькі як інклюзіўны суб'ект ("Подзвіг Францыска Скарыны", «Гэта было 10 сакавіка 1864 года»...).

Дыялагічнасць дыскурсу з уключэннем займеннікаў *ты, твой* і *вы, ваш* не атрымала значнага пашырэння ў эсэ У.Караткевіча. Такая асаблівасць характэрна толькі для некаторых, відаць, вельмі важных для аўтара тэкстаў, якія ў асноўным звернуты да моладзі і таму маюць ярка выражаны выхаваўчы і павучальны характар ("Зямля пад белымі крыламі", "Твой зорны час", "Абдуванчык на кромцы вады" і інш.). Аднак гэта найбольш эфектыўны спосаб дыялагізацыі.

Эсэістычны дыскурс У.Караткевіча характарызуецца дыялагічнасцю, створанай не толькі арганічным уключэннем займеннікаў - паказчыкаў суб'екта-адрасанта і аб'екта-адрасата дыскурсу, але і майстэрскім выкарыстаннем рытарычных фігур з мэтай уздзеяння і пераканання. У раздзеле "Рытарычныя фігуры як сродак уздзеяння на адресата" даследуецца арганічнасць выкарыстання пісьменнікам "ходу з пытаннем і адказам" і характар узмацнення ўздзеяння гэтага прыёму пры яго сумяшчэнні з іншымі рытарычнымі сродкамі, асабліва з лексічнымі паўторамі, з чаргаваннем пытальных і сцвярджальных сказаў. Для некаторых твораў У.Караткевіча ход з пытаннем і адказам становіцца канцэптуальным прыёмам падчас тэкстастварэння: "Зямля над белымі крыламі", "Памяць зямлі беларускай", "Якім шляхам ісці?", "Что случилось с рассказом?", "Справядлівасць". Аўтар удала прымяняе рытарычнае пытанне, якое ўспрымаецца не як пытанне, на якое неабходна даць адказ, а як станоўчае сцвярджэнне, у выніку чаго аб'ект дыскурсу вымушаны згадзіцца / не згадзіцца з гэтым сцвярджэннем або звярнуцца да яго аналізу. Акрамя таго, у рытарычным пытанні прысутнічае імпліцытна выражаная суб'ектыўная ацэначнасць моўнага факта, характэрная менавіта для публіцыстычнага маўлення.

У раздзеле **"Паказчыкі функцыі ілакутыўнага акта"** паводле тэорыі маўленчых актаў даследуецца функцыянаванне лексемы магчыма як своеасаблівай "формулы эсэістыкі". З'яўляючыся эквівалентам выразу "я мяркую, што", магчыма змяняе ілакутыўны акт сцвярджэния на ілакутыўны акт меркавання, становіцца спецыфічным сродкам сувязі і ўзаемадзеяння асобных складнікаў у эсэістычным дыскурсе У.Караткевіча, выяўляе аўтарскія адносіны да іх і ўрэшце рэканструюе светапогляд аўтара. Персуазіўнасць як прымета эсэістычнага дыскурсу выяўляецца ў свядомым, наўмысным ўздзеянні на кагнітыўна-ментальную сферу чытача з мэтай дасягнуць пажаданага аўтару выніку. Паказчыкі персуазіўнасці - мадальнае слова *магчыма*, яго семантычныя эквіваленты *можа, можа быць* разам з паказчыкамі аўтарызацыі - выразамі *на мой погляд, на маю думку* і лексемай *па-мойму* ствараюць у эсэістычным дыскурсе У.Караткевіча

своеасаблівы рад лагічнай ацэнкі паведамлення. Ужыванне элементаў гэтага рада пераважае ў тых сказах, якія без такіх паказчыкаў утрымлівалі б значную долю катэгарычнасці, а пісьменнік імкнецца пазбегнуць адназначных трактовак пры разглядзе той або іншай тэмы, спрабуе шляхам сваіх разважанняў і суразважанняў з аб'ектам дыскурсу знайсці найбольш прымальны адказ. Эксплiцытныя паказчыкі функцыі ілакутыўнага акта ў чарговы раз сведчаць пра выкарыстанне аўтарам эсэістычнага метаду адлюстравання рэчаіснасці.

Раздзел "**Дыскурсны аналіз публіцыстычнага твора як прэзентацыя аўтарскіх інтэнцый**" прысвечаны разгляду эсэ-партрэта “Гэта было 10-га сакавіка 1864 года..." з выяўленнем пяці макраструктур тэксту, якія па-рознаму узаемадзейнічаюць паміж сабой і выклікаюць адпаведнае ўздзеянне на адрасата. Выяўляецца, што герой на працягу расповеду нібы "памірае" пяць разоў у адпаведнасці з колькасцю макраструктур: у першай гэта праяўляецца канстатацыяй факта павешання, у другой - указаннем на "трагічныя апошнія часіны", у трэцяй - уяўленнем яго вобраза "з мураўёўскай пятлёй на шыі", у чацвёртай - выразам "ён аддаў свае жыццё", у пятай - паўтарэннем факта пра "адну з самых чорных спраў". Такую ж вертыкальную сувязь макраструктур забяспечвае сінанімічная парадыгма "чалавек - ён — малады чалавек студэнт - Вітажэнец - Кастусь Каліноўскі - Кастусь - Каліноўскі - нацыянальны герой". Такім чынам аўтар стварае канцэтпуальную структуру тэксту, семантычным ядром якой становіцца сінтагма "смерць нацыянальнага героя".

Дыскурсны аналіз дазваляе выявіць шматлікія асаблівасці будовы тэксту, якія толькі пацвярджаюць, што матываваны выбар таго або іншага моўнага факта (асобнай лексемы, сінанімічнай або антанімічнай парадыгмы, тропа, рытарычнай фігуры, трывання дзеяслова, асобы займенніка і інш.) прадыктаваны інтэнцыяй стваральніка тэксту быць пачутым, садзейнічае ўсталяванню адносін раўнапраўнасці і ўзаемаразумення паміж аўтарам і чытачом, што можна лічыць адной з галоўных перадумоў эфектыунасці камунікатыўнай зададзенасці дыскурсу.

У трэцяй главе дысертацыі "**Канцэптуалізацыя лексемы і яе жанраўтваральная роля**" выяўляюцца найбольш характэрныя дамінантныя лексемы асобных публіцыстычных твораў і даследуецца функцыянаванне канцэпта *зямля* ў публіцыстыцы У.Караткевіча. Публіцыстыка пісьменніка з поўным правам можа быць названа канцэптуальнай.

У раздаеле "**Канцэпт публіцыстычнага тэксту — сродак семантычнай кагезіі**" разглядаецца праблема выяўлення канцэпта

тэксту як згорнутай сэнсавай структуры. Менавіта канцэпт тэксту, сканструяваны аўтарам пераважна трапеічнымі сродкамі, стварае неабходныя перадумовы для ўспрымання рэцыпіентам семантыкі, сфакусаванай у адной або некалькіх лексемах, і выступае ў якасці інструментальнай дамінанты семантычнай кагезіі. У раздзеле выяўлены і даследаваны канцэпты эсэ У.Караткевіча трох жанравых разнавіднасцей: эсэ-партрэта "Рыгору Раманавічу Шырме – сардэчныя словы любові" (канцэпт песня), эсэ-артыкула "Абдуванчык на кромцы вады" (канцэпт абдуванчык) і эсэ-нарыса "Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён" (канцэпт сцюдзёная вясна). Канцэпт дадаткова матывуе пэўную жанравую разнавіднасць эсэ і з'яўляецца сродкам сувязі паміж яго разнапланавымі часткамі. У прыватнасці, у эсэ-партрэце канцэпт суадносіцца з семантычным суб'ектам (Рыгор Раманавіч Шырма - песня), у эсэ-артыкуле - з рэцыпіентам (кожны чалавек - абдуванчык), у эсэ-нарысе - з прадметам даследавання (гісторыя і сучаснасць Турава - сцюдзёная вясна).

У.Караткевіч імкнецца пры выбары семнага напаўнення імпліцытнага значэння тропа выкарыстоўваць толькі тыя сродкі і прыёмы, якія дапамагаюць у раскрыцці аўтарскай задумы, валодаюць найбольшай магчымасцю выяўлення закладзеных пры стварэнні тэксту інтэнцый, прыводзяць да разумення рэцыпіентам ментальнай сутнасці канцэпта і карэктуюць светапогляд чытача. Семантычная кагезія тэксту ва ўсіх выпадках падтрымліваецца камунікатыўным і тэматычным адзінствам, але ўсё ж самым важным для аўтара ўяўляецца менавіта семантыка моўнай адзінкі, якая стварае магчымасць як найпаўней раскрыць канцэпт тэксту, стварыць кантэкстуальныя семантычныя феномены і з дапамогай іх уздзейнічаць на рэцыпіента.

Раздзел "**Канцэптуалізацыя лексемы *зямля* і тэкстаўтварэнне**" прысвечаны вызначэнню асаблівасцей канцэпта *зямля* ў публіцыстыцы У.Караткевіча і правядзенню канцэптуальнага аналізу (паводле даследаванняў А.Маславай, Ю.Сцяпанава, В.Карасіка, В.Красных, Л.Чарнейкі і інш.) з характарыстыкай фактуальнага, каштоўнаснага і вобразнага элементаў (слаёў). Лексема *зямля* з'яўляецца найбольш характерным для У.Караткевіча ключавым словам з дадатным маркерам і дамінантай моўнай карціны свету, прычым найбольш выразна гэта праяўляецца менавіта ў публіцыстыцы.

Пры разглядзе фактуальнага элемента канцэпта выяўляецца пашырэнне семантыкі лексемы ў параўнанні са слоўнікавымі значэннямі, пры гэтым зямля можа асацыіравацца з усімі лексіка-семантычнымі варыянтамі ключавога слова. У публіцыстыцы У.Караткевіч шырока выкарыстоўвае лексему *зямля* са значэннем *край*, не зафікса-

ваным тлумачальнымі слоўнікамі (мсціслаўская зямля, віцебская зямля, заходнеўкраінская зямля і інш.).

Апісанне канцэпта праводзіцца з выкарыстаннем лінгвістычных гештальтаў, якія дапамагаюць усвядоміць яго ментальную сутнасць шляхам раскрыцця літаральнага сэнсу лексемы ў канкрэтнай рэферэнтнай сітуацыі. Сказы, якія звязваюцца з раскрыццём нацыянальнай карціны свету, глыбока прадуманыя і асэнсаваныя аўтарам. Кантэксты дазваляюць сфармуляваць уласцівасці канцэпта *зямля*: 'зямлю беларус любіць, яна - сваяк, бо мае кроўную сувязь з ім'; 'зямля ў беларуса няшчодрая, яна вучыць ашчаднасці і разліку'; 'зямля - мера каштоўнасці і дабрабыту, без яе жыццё не жыццё'; 'зямля - дадзенае Богам багацце' і інш.

Вобразны элемент канцэпта даследаваны праз характарыстыку трапеічнага словаўжывання. У пісьменніка *зямля* выкарыстоўваецца з прэдыкатамі *нарадзіць, дыхаць, ажываць, загаварыць, спяваць* і інш. і асацыіруецца з маці, знешне і ўнутрана падобна да яе (мае вочы, душу, памяцъь, сэрца, грудзгі, дзяцей, хваробы...). Зафіксавана 134 азначэнні і эпітэты да *зямлі,* частка якіх не фіксуецца слоўнікамі эпітэтаў беларускай мовы (напрыклад, *вечная, прасветленая, прыўкрашаная, абяскроўленая, спаганеная, знявечаная, пашматаваная, грэшная, хвалістая і інш.*).

Праведзена даследаванне лексем сінанімічнай парадыгмы ключавога слова канцэпта: "Зямля (*высок.*), краіна, рэспубліка, дзяржава, край, старана, старонка (*паэт.*), бацькаўшчына, радзіма, айчына (*паэт. высок.*), Беларусь". Аналіз функцыянавання гэтых лексем дазволіў удакладніць і пашырыць асацыятыўныя сувязі канцэпта зямля, канкрэтызаваць характарыстыку моўнай асобы У.Караткевіча. Напрыклад, пры выкарыстанні лексемы зямля ў дачыненні да Беларусі выяўляецца аднесенасць яе да ліку краін, і калі пісьменнік суадносіў тры лексемы сінанімічнай парадыгмы (зямля, краіна і рэспубліка) з Беларуссю, то ён разбураў стэрэатыпы грамадскай свядомасці і, можна сказаць, па-свойму набліжаў абвяшчэнне незалежнасці.

Адзначаны вялікія спалучальнасныя магчымасці лексем *зямля* і *Беларусь*. Напрыклад, аўтар аддае перавагу сінтагме «на зямлі» замест "на свеце" і "у свеце", а таксама практычна не выкарыстоўвае сінтагму "ў Беларусь", а толькі "на Беларусь". Колькасныя суадносіны сінтагмаў «на Беларусі” і «у Беларусі» складаюць 55 да 10. Пашырэнне выкарыстання акалічнасных сінтагмаў "на Беларусі" і "на Беларусь" можна лічыць заканамернай з'явай, бо прыназоўнік *на* менш асацыіруецца з семантыкай "ўнутры”, а больш з семантыкай "на паверхні”.

У.Караткевіч як таленавіты публіцыст выбіраў гэту сінтагму яшчэ і з прычыны глыбіннай асацыяцыі "Беларусь - родная зямля" (прыназоўнікі ў сінтагмах "у роднай зямлі", "у зямлі" і "ў родную зямлю", "у зямлю" маюць значэнне толькі "ўнутры, унутр").

Даследаванне канцэпта зямля паказвае, што выбар гэтай лексемы прадыктаваны інтэнцыяй аўтара выявіць у тэксце найбольш характэрныя для ментальнасці беларускага народа ўласцівасці і асацыятыўныя сувязі. Гэты канцэпг характарызуе галоўныя складнікі беларускай нацыянальнай карціны свету і дазваляе выявіць асаблівасці яе праяўлення ў публіцыстыцы У.Караткевіча.

Пры даследаванні канцэптаў выяўляецца арганічная сувязь іх семантычнага напаўнення з моўнай асобай У.Караткевіча і прасочваецца ўплыў па канструяванне жанру эсэ.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

### Асноўныя навуковыя вынікі дысертацыі

Даследаванне публіцыстыкі Уладзіміра Караткевіча, заснаванае на спалучэнні асэнсавання асобных звёнаў ланцужка журналістыка - літаратура - мова, дазволіла вызначыць парадыгматычную заканамернасць і сінтагматычную неабходнасць выбару аўтарам канкрэтнага моўнага факта і матываванасць ім метадалогіі вызначэння жанру. Міждысцыплінарны характар дысертацыі даў магчымасць выявіць сістэмныя залежнасці структурных кампанентаў у творах мастацкай публіцыстыкі ад аўтарскіх інтэнцый і камунікатыўнай прызначанасці адпаведнага жанру, прапанаваць дыферэнцыяцыю жанру эсэ ў публіцыстыцы і дапоўніць журналісцкі і літаратуразнаўчы падыходы ўласна лінгвістычным, ахарактарызаваць асаблівасці публіцыстычнага тэксту як прадукту разумовай дзейнасці У.Караткевіча, сродкі ўздзеяння і пераканання ўяўнага чытача (апанента) з мэтай карэкціроўкі яго тэзаўрусу, магчымасці канцэнтуальнай лексікі пры тэкстаўтварэнні і сігніфікатыўным разгортванні зместу.

Найбольш істотныя вынікі праведзенага даследавання могуць быць сфармуляваны ў выглядзе наступных палажэнняў.

1. Праз актыўную працу ў публіцыстыцы У.Караткевіч адлюстроўвае свае адносіны да рэчаіснасці і імкнецца ўздзейнічаць на сацыякультурную прастору адпаведнага часу. Наяўнасць розных трактовак у жанравай прыналежнасці пэўных публіцыстычных твораў можа прывесці да неабгрунтаванай інтэрпрэтацыі пададзеных у іх

фактаў як мастацкага домыслу і да непрыняцця іх дакладнасці, што ў сваю чаргу зробіць немагчымым дасягненне запланаванага камунікатыўна-ўплывовага эфекту. Выяўленыя квантытатыўныя параметры лексічных сістэм публіцыстыкі і мастацкай прозы У.Караткевіча і іх параўнанне з паказчыкамі частотных слоўнікаў беларускай і рускай моў даказваюць прыналежнасць нарысаў, эсэ і крытычных твораў пісьменніка да публіцыстычных жанраў. Акрамя таго, частотнасць ацэначных лексем у публіцыстычных творах У.Караткевіча ў 2-8 разоў перавышае іх частотнасць у мастацкай прозе, у чым праяўляецца характэрная асаблівасць лексічнай сістэмы публіцыстыкі, звязаная з актыўным функцыянаваннем ацэначнай лексікі, якая сігналізуе не толькі пра індывідуальны аўтарскі выбар, але і пра яе сацыяльную функцыю. Супадзенне частотнасці лексічных адзінак у публіцыстыцы У.Караткевіча з частотнасцю, зафіксаванай у беларускім і рускіх частотных слоўніках публіцыстыкі, дазваляе меркаваць пра арганічнае ўключэнне даследаваных лексем у структуру асобных публіцыстычных твораў [12, 13, 15].

2. Для публіцыстыкі У.Караткевіча характэрны жанравы сінтэтызм, які выяўляецца ў максімальным выкарыстанні эсэістычнага метаду адлюстравання рэчаіснасці і з'яўляецца адной з прычын разнастайнай жанравай ідэнтыфікацыі канкрэтнага твора. Вобраз аўтара і яго моўная асоба займаюць цэнтральнае месца ў структуры тэксту, становяцца дамінантнымі для большасці публіцыстычных твораў пісьменніка, што сведчыць аб прыналежнасці іх да жанру эсэ (аўтарскае жанравае вызначэнне часткі твораў таксама пацвярджае гэта). Звышдысцыплінарны характар жанру дазваляе правесці дыферэнцыяцыю эсэ і выпрацаваць класіфікацыйную мадэль аднясення канкрэтнага твора да пэўнай жанравай разнавіднасці, заснаваную на выяўленні ў ім элементаў іншых публіцыстычных жанраў. У выніку гэтага прапануюцца наступныя жанравыя разнавіднасці эсэ: эсэ-нарыс, эсэ-партрэт, эсэ-рэцэнзія, эсэ-замалёўка, эсэ-артыкул, эсэ-фельетон. Аднак у кожным эсэ адной жанравай разнавіднасці узаемнае размяшчэнне элементаў ўсё ж нестабільнае, рухомае, цвёрда не замацаванае і залежыць ад напрамку аўтарскай думкі пры стварэнні канкрэтнага твора [4, 10].

3. Эсэістычны дыскурс У.Караткевіча характарызуецца высокачастотнай насычанасцю эксплiцытнымі паказчыкамі наяўнасці ў тэкставай тканіне аўтара як канкрэтнага чалавека (прыватнага - *я* і сацыяльнага - *мы*). Акрамя таго, яны спрыяюць больш дасканаламу правядзенню жанравай дыферэнцыяцыі публіцыстычных твораў У. Караткевіча і ў чарговы раз пацвярджаюць слушнасць далучэння іх

да жанру эсэ. Дэйктычныя сродкі маркіроўкі суб'екта-адрасанта і аб'екта-адрасата дыскурсу з'яўляюцца не столькі фармальнымі паказчыкамі прысутнасці аўтара і чытача, колькі дзейсным спосабам дыалагізацыі дыскурсу, сродкам уздзеяння і змянення тэзаўрусу рэцыпіента і дазваляюць рэканструяваць моўную асобу У.Караткевіча. Шырокае выкарыстанне У.Караткевічам разнастайных рытарычных фігур садзейнічае большай эфектыўнасці камунікатыўнай зададзенасці дыскурсу, сведчыць пра імпліцытную ацэначнасць моўнага факта і характарызуе аўтара як таленавітага публіцыста, які ўмее прадбачыць магчымыя пярэчанні ўяўнага рэцыпіента і прадугледжвае гэта ў час тэкстаставаральнай дзейнасці. Паказчыкі функцыі ілакутыўнага акта выяўляюць прысутнасць У.Караткевіча ў тэксце і паказваюць, часцей за ўсё, дэмакратызм аўтара, улік ім меркаванняў нябачнага апанента і жаданые пераканаць яго ў слушнасці менавіта аўтарскай трактоўкі разгледжанай праблемы [9].

4. Дыскурсны аналіз публіцыстычнага твора У.Караткевіча дазваляе выявіць асаблівасці праектавання і канструявання тэксту, якія толькі пацвярджаюць, што кожны выбраны моўны факт (асобная лексема, сінанімічная або антанімічная парадыгма, троп, рытарычная фігура, трыванне дзеяслова, асоба займенніка і інш.) прэзентуе аўтарскія інтэнцыі, актуалізуе патэнцыяльнага суразмоўцу і сігналізуе аб жанравай прыналежнасці твора. Пры гэтым выяўляюцца аўтарскія перакананні, узнаўляецца экстралінгвістычная інфармацыя, закадзіраваная ў макраструктурах тэксту. Матываваны выбар моўнага факта ў канкрэтным публіцыстычным творы садзейнічае ўсталяванню меншай адлегласці паміж аўтарам і чытачом, што можна лічыць адной з галоўных перадумоў найбольш эфектыўнага пераканання адрасата [6].

5.іКанцэптуалізацыя лексемы выяўляецца практычна ў кожным публіцыстычным творы і дазваляе лічыць публіцыстыку У.Караткевіча канцэптуальнай. Канцэпт тэксту сканструяваны пісьменнікам шляхам разгортвання імпліцытнага значэння тропа, чаму падпарадкавана ўся тэкстаставаральная дзейнасць аўтара. Семантычнае папаўненне імпліцыта адбываецца ў сінтагматыцы кожнай макраструктуры тэксту, сігніфікатыўна ўцягваючы ў сябе сэнсавыя коды, і ў парадыгматыцы паміж макраструктурамі - у вертыкальным напрамку. Канцэпт публіцыстычнага тэксту У.Караткевіча становіцца інструментарыем семантычнай кагезіі, цэментуе тэкст у адно цэлае, садзейнічае стварэнню тэматычнага і камунікатыўнага адзінства. Канцэпт тэксту са сваімі асаблівасцямі матывуе аднесенасць твора да канкрэтнай жанравай разнавіднасці эсэ [14,16].

6. Даследаванне канцэпта *зямля* ў публіцыстыцы У.Караткевіча характарызуе аўтара як выразніка экстралінгвістычнай інфармацыі, якая раскрываецца пасля адпаведнай раскадзіроўкі схаваных сэнсаў, і паказвае, што зацікаўленасць пісьменніка гэтым канцэптам прадыктавана інтэнцыяй разгарнуць у творы асноўныя ўласцівасці беларускай ментальнасці. У гэтым канцэпце ўтрымліваецца галоўная характарыстыка менталітэту беларускага народа, для якога зямля на працягу стагоддзяў была Боскім дарам і самым каштоўным набыткам. Даследаванне функцыянавання канцэпта паказала, што У.Караткевіч сам стаў выразнікам ментальнасці беларускага народа. Аналіз сінанімічнай парадыгмы ключавога слова канцэпта дапаўняе характарыстыку зямлі новымі ўласцівасцямі, дазваляе рэканструяваць моўную асобу У.Караткевіча, які сваімі творамі актыўна ўздзейнічаў на сацыякультурную сітуацыю і разбураў стэрэатыпы грамадскай свядомасці. Канцэпт *зямля* выконвае важную ролю пры сігніфікатыўным разгортванні: выступае канцэптуальнай лексемай пры пабудове асобных тэкстаў, уводзіць вобразныя фрагменты ў структуру эсэ, дапаўняе фактуальную інфармацыю разнастайнымі канатацыямі і асацыятыўнымі сувязямі [2,3,5,11].

## Рэкамендацыі па практычным выкарыстанні вынікаў

Практычная вартасць дысертацыйнага даследавання выяўляецца ў трох напрамках.

Па-першае, вынікі навуковай працы могуць быць выкарыстаны ў навучальным працэсе на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у прыватнасці пры выкладанні беларускай літаратуры, стылістыкі публіцыстычных жанраў, пры чытанні спецкурсаў і спецсемінараў па літаратуразнаўстве, журналістыцы і мовазнаўстве, пры напісанні студэнтамі курсавых і дыпломных прац.

Па-другое, выяўленыя асаблівасці функцыянавання моўнага факта ў публіцыстычным творы пісьменніка дазваляюць выкарыстаць іх пры даследаванні праблем літаратуразнаўства, журналістыкі, стылісгыкі беларускай мовы і стылістыкі тэксту, лінгвістыкі тэксту, дыскурснага аналізу, а таксама падчас стварэння стылістычнага слоўніка публіцыстыкі (або слоўніка вобразнасці публіцыстыкі).

Па-трэцяе, вынікі могуць быць выкарыстаны пры распрацоўцы моўных асаблівасцей усяго корпусу тэкстаў У.Караткевіча і пры стварэнні слоўніка мовы пісьменніка.

## СПІС ПУБЛІКАЦЫЙ СУІСКАЛЬНІКА ПА ТЭМЕ ДЫСЕРТАЦЫІ

**Артыкулы**

1 Жаўняровіч, П. Сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам *па*: асаблівасці будовы і ўжывання / П.Жаўняровіч // Роднае слова. - 1998. - № 11. — С. 119-134.

2 Жаўняровіч, П. Ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў: словаформы і сінтаксічныя сувязі / П.Жаўняровіч // Роднае слова. - 2000. - № 8. - С. 73-76; № 10. - С. 30-32.

3 Жаўняровіч, П. *Парка* ці *парку?* Асаблівасці семантыкі назоўнікаў мужчынскага роду і яе ўздзеянне на канчаткі роднага склону / П.Жаўняровіч // Роднае слова. - 2004. - № 8,-С. 33-35; № 9. - С. 29-33.

4 Жаўняровіч, П.П. Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча / П.П.Жаўняровіч // Беларуская мова і літаратура. - 2005. - № 3. - С. 51-53.

5 Жаўняровіч, П. Рэканструяванне моўнай асобы У.Караткевіча на падставе функцыянавання лексем *краіна* і *рэспубліка* ў эсэ-нарысе "Зямля над белымі крыламі" / П.Жаўняровіч // Роднае слова. - 2005. - № 4. - С. 30-31.

6 Жаўняровіч, П. Дыскурсны аналіз публіцыстычнага тэксту Уладзіміра Караткевіча / П.Жаўняровіч // Роднае слова. - 2005. - № 8. - С. 64-65; № 9. - С. 51-53.

7 Жолнерович, П. П. Белорусский Вальтер Скотт / П.П.Жолнерович // Русский язык в центре Европы 8. — Банска Бистрица: Ассоциация русистов Словакии, 2005. - С. 77-78.

8 Жаўняровіч, П. Храм душы і зямлі / П.Жаўняровіч // Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!: успаміны, інтэрв'ю, эсэ / уклад. Г.Шаблінскай. - Мінск: Маст. літ., 2005,-С. 316-320.

9 Жаўняровіч, П. П. Лексема "*магчыма*" ў публіцыстычных тэкстах Уладзіміра Караткевіча: персуазіўнасць, ацэначнасць, аўтарызацыя / П.П. Жаўняровіч // Народная асвета. - 2006. -№ 2. - С. 27-29.

**Матэрыялы канферэнцый**

10 Жаўняровіч, П. Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча: праблема жанру / П.Жаўняровіч // Слова ў кантэксце часу: матэрыялы Рэспублік. навук. чытанняў, прысвеч. памяці докт. філал. нав., праф. А.І.Наркевіча: да 75-годдзя з дня нараджэння, Мінск, 10 сак. 2004 г. / Беларус. дзярж. ун-т, фак-т журналістыкі; рэдкал.: В.П.Вараб'ёў (адк. рэд.) [і інш.]. - Мінск: БДУ, 2004. - С. 44-46.

11 Жаўняровіч, П. Лексемы "краіна" і "рэспубліка" ў эсэ-нарысе У.Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі / П.Жаўняровіч // Журналістыка-2004: матэрыялы 6-й Міжйар. навук.-практыч. канф., прысвеч. 60-годдзю факультэта журналістыкі, Мінск, 2-3 снеж. 2004 г. Вып. 6 / Беларус. дзярж. ун-т; рэдкал.: В.П.Вараб'ёў (адк.рэд.) [і інш.]. - Мінск: БДУ, 2004. - С. 133-135.

12 Жаўняровіч, П. Метафара *сын* як адзін з канцэптаў публіцыстыкі У.Караткевіча / П.Жаўняровіч // Национально-культурный компонент в тексте и языке: материалы докл. III Междунар. науч. конф. под эгидой МАПРЯЛ, Минск, 7-9 апр. 2005 г. В 3 ч. / Белорус, гос. лингв, ун-т, Белорус, гос. ун-т, Белорус, респ. фонд фундам. исслий; отв. ред. А.В.Зубов, С.М.Прохорова. - Минск: МГЛУ, 2005.-4.2.-С. 177-179.

13 Жаўняровіч, П. Лексема *велічны* як паказчык размежавання публіцыстыкі і прозы Уладзіміра Караткевіча / П.Жаўняровіч // Беларуская журналістыка 2005: матэрыялы 62-й навук.-практыч. канф, студэнтаў і аспірантаў, Мінск, 21 крас. 2005 г. / Беларус. дзярж. ун-т, фак-т журналістыкі; рэдкал.: С.В.Дубовік (адк. рэд.) [і інш.]. - Мінск: БДУ, 2005. - С. 16-17.

14 Жаўняровіч, П. П. Асаблівасці семантычнай кагезіі публіцыстычнага тэксту У.Караткевіча / П.П.Жаўняровіч // Текст в лингвистической теории и в методике преподавания филологических дисциплин: материалы III Междунар. науч. конф., Мозырь, 12-13 мая 2005 г. В 2 ч. / Мозырский гос. пед. ун-т; отв. ред.: С.Б.Кураш, О.И.Ревуцкий, В. Ф. Руссцкий. Мозырь: МГПУ, 2005. - Ч. 1. - С. 7- 8.

15 Жаўняровіч, П. П. Ацэначнасць тропа *маці* ў публіцыстыцы У.Караткевіча / П.П.Жаўняровіч // Е.Ф.Карский и современное языкознание: материалы X междунар. Карских чтений, Гродно, 16 17 мая 2005 г. В 2 ч. / Гродн. гос. ун-т; отв. ред. М.И.Конюшкевич. - Гродно: ГрГУ, 2005. - Ч. 2 - С. 91-97.

16 Жаўняровіч, П. "Абдуванчык на кромцы вады" як канцэптуалізацыя "безабароннасці прыроды" ў публіцыстычным тэксце Уладзіміра Караткевіча / П.Жаўняровіч // Журналістыка-2005: на скрыжаванні часу і прасторы: матэрыялы 7-й Міжнар. навук.-практ. канф., прысвеч. 80-годдзю Беларус. радыё і 50-годдзю Беларус. тэлебачання, Мінск, 1-2 снеж. 2005 г. Вып. 7 / Белар. дзярж. ун-т; рэдкал.: С.В.Дубовік (адк. рэд.) [і інш.]. -Мінск: БДУ, 2005. - С. 156-158.

**РЭЗЮМЭ**

**Жаўняровіч Пётр Пятровіч**

**Публіцыстыка Уладзіміра Караткевіча: моўны факт у вызначэнні жанру**

*Ключавыя словы*: публіцыстыка, жанр, эсэ, частотнасць, ацэначнасць, эсэістычны дыскурс, дыскурсны аналіз, парадыгматыка, сінтагматыка, канцэпт тэксту, канцэпт *зямля*, сема.

*Мэта даследавання*: ахарактарызаваць парадыгматычную заканамернасць і сінтагматычную неабходнасць выбару аўтарам канкрэтнага моўнага факта, паказаць яго жанраўтваральную ролю.

*Метады*: выкарыстаныя ў ходзе правядзення даследавання: квантытатыўны, семантыка-стылістычны, метады кампанентнага, канцэптуальнага і дыскурснага аналізу.

Атрыманыя вынікі і іх навізна. Упершыню ў беларускай філалогіі і журналістыкі паказана размежаванне публіцыстыкі і мастацкай прозы У.Караткевіча на падставе выяўлення частотнасці базавых безацэначных і ацэначных лексем; вызначаны жанравы сінтэтызм публіцыстыкі пісьменніка; прапанавана дыферэнцыяцыя жанру эсэ; праведзена даследаванне эсэістычнага дыскурсу з выяўленнем найбольш уласцівых моўных фактаў і характарыстыкай іх уздзеяння на правядзенне жанравай дыферэнцыяцыі публіцыстыкі; апісаны канцэпты трох публіцыстычных тэкстаў розных жанравых разнавіднасцей эсэ; ахарактарызаваны канцэпт зямля і адзначана спецыфіка яго функцыянавання ў публіцыстыцы У.Караткевіча з верагоднай аднесенасцю складнікаў названага канцэпта да ментальнасці беларускага народа. Палажэнні дысертацыі ўносяць пэўны ўклад у вырашэнне праблем ацэначнасці лексемы ў публіцыстачным тэксце, семантычнай карэляцыі лексемы ў канкрэтнай рэферэнтнай сітуацыі, імпліцытнага напаўнення тропа на працягу сігніфікатыўнага разгортвання.

*Вынікі даследавання* могуць быць выкарыстаны ў навучальным працэсе на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у прыватнасці пры выкладанні беларускай літаратуры, стылістыкі публіцыстычных жанраў, пры чытанні спецкурсаў і спецсемінараў па літаратуразнаўстве, журналістыцы і мовазнаўстве, пры напісанні студэнтамі курсавых і дыпломных прац. Выяўленыя асаблівасці функцыянавання моўнага факта ў публіцыстычным тэксце пісьменніка дазваляюць выкарыстаць іх пры даследаванні праблем літаратуразнаўства, журналістыкі, стылістыкі беларускай мовы і стылістыкі тэксту, лінгвістыкі тэксту, дыскурснага аналізу.

## РЕЗЮМЕ

**Жолнерович Петр Петрович**

**Публицистика Владимира Короткевича: языковой факт в определении жанра**

*Ключевые слова*: публицистика, жанр, эссе, частотность, оценочность, эссеистический дискурс, дискурсный анализ, парадигматика, синтагматика, концепт текста, концепт *земля*, сема.

*Цель исследования*: охарактеризовать парадигматическую закономерность и синтагматическую необходимость выбора автором конкретного языкового факта, показать его жанрообразовательную роль.

*Методы*, использованные в ходе проведения исследования: квантитативный, семантико-стилистический, методы компонентного, концептуального и дискурсиого анализа.

*Полученные результаты и их новизна*. Впервые в белорусской филологии и журналистике показано разграничение публицистики и художественной прозы В.Короткевича на основании установления частотности базовых безоценочных и оценочных лексем; определенен жанровый синтетизм публицистики писателя; предложена дифференциация жанра эссе; проведено исследование эссеистического дискурса с определением наиболее свойственных языковых фактов и характеристикой их воздействия на проведение жанровой дифференциации публицистики; описаны концепты трех публицистических текстов разных жанровых разновидностей эссе; охарактеризован концепт земля и отмечена специфика его функционирования в публицистике В.Короткевича с возможной отнесенностью составляющих названного концепта к ментальности белорусского народа. Положения диссертации вносят определенный вклад в разрешение проблем оценочности лексемы в публицистическом тексте, семантической корреляции лексемы в конкретной референтной ситуации, имплицитного наполнения трот на протяжении сигнификативного развертывания.

*Результаты исследования* могут быть использованы в учебном, процессе на факультете журналистики Белорусского государственного университета, в частности при преподавании белорусской литературы, стилистики публицистических жанров, при чтении спецкурсов и спецсеминаров по литературоведению, журналистике и языкознанию, при написании студентами курсовых и дипломных работ. Выявленные особенности функционирования языкового факта в публицистическом тексте писателя позволяют использовать их при исследовании проблем литературоведения, журналистики, стилистики белорусского языка и стилистики текста, лингвистики текста, дискурсного анализа.

**SUMMARY**

**Zhauniarovich Piotr Piatrovich**

**Publicism of Uladrimir Karatkevich: language fact in genre determination**

Key-words: publicism, genre, essay, frequency, evaluation, essayistic discourse, discourse analysis, paradigmatic, syntagmatic, text concept, concept land (earth), seme. Aim of research: to describe paradigmatic regularity and syntagmatic necessity for the author to choose a specific language fact and show its genre formative role. Methods used in the course of research: quantitative, semantic-stylistic, methods of component, concept and discourse analysis.

Scientific novelty and value of results received consists of the following: in the dissertation for the first time in the Belarusian philology and journalism the differentiation of publicism and prose of U.Karatkevich on the basis of maintaining frequency of main non-evaluative and evaluative lexemes is shown, the genre synthesizing of writer's publicism is determined; the differentiation of essay genre is offered; analysis of essayistic discourse is held - as a result the most peculiar to the author language facts are shown and the characteristic of their influence on determining publicism genre is given; the concepts of three publicistic texts belonged to different kinds of essay genre are described, the concept land (earth) is depicted and its functioning in the publicism of U.Karatkevich is pointed out with the possibility of its components to be referred to the Belarusian people mentality. The main positions and conclusions of the dissertation make a definite contribution to the solving problem of lexeme evaluation in the publicistic text, lexeme semantic correlation in particular reviewing situation, implying trope filling in the course of meaning de velopment. The results of research can be used as a part of academic studies in Journalistic Faculty of Belarusian State University, particular in teaching Belarusian Literature, Stylistics of Publicistic Genres as well as in giving lectures on special courses and seminars on Study of Literature, Journalism and Linguistics, it can also be used by students to help in writing term and graduation papers. Ascertained particulars of language fact functioning in writer's publicistic text allow to use them while investigating problems in Study of Literature, Journalism, Belarusian Language Stylistics and Text Stylistics, Text Linguistics and discourse analysis.